27 студзеня 1994 г.
Чацвер
№ 10 (13726)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

ЧЗ

# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК




## Кур'ер "ЧЗ"

### В.Чарнамырдзін прыедзе ў пачатку лютага

*Як паведаміў адказны работнік урадавай службы інфармацыі, прыезд расійскага прэм'ера Віктара Чарнамырдзіна ў Мінск для падпісання дакументаў аб аб'яднанні фінансавых сістэм Расіі і Беларусі чакаецца ў першай дэкадзе лютага.*

Паводле некаторых звестак, ён адбудзецца 5 лютага, аднак канчатковая дата яшчэ ўдакладняецца. Адтэрміноўка візіту, які планаваўся на другую палаву студзеня, тлумачыцца тым, што час, адведзены для падрыхтоўкі дакументаў, аказаўся вельмі кароткім.

БЕЛІНФАРМ.

### Беларускае консульства будзе ў Латвіі –

*З 1 лютага ў Даўгаўпілсе пачне працаваць Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Латвіі, рашэнне аб адкрыцці якога прынята Вярхоўным Саветам рэспублікі 17 студзеня.*

Як паведаміў напярэдадні ад'езду ў Латвію кіраўнік консульства Анатоль Жалтоўскі, у бліжэйшыя дні ён мае намер заняцца арганізацыйнай дзейнасцю для стварэння належных умоў для працы консульства, каб як мага хутчэй пачаць выконваць свае прамыя абавязкі. Па ўзгадненню з урадам Латвійскай Рэспублікі, у Віцебску пачне дзейнічаць консульства Латвіі.

### За нашу тэлекамунікацыю бяруцца французы

*У Дзяржаўным камітэце Беларусі па знешніх эканамічных сувязях адбылася сустрэча намесніка старшыні камітэта Сяргея Атрошчанкі з прадстаўнікамі французскай кампаніі ALCATEL–CIT, прадстаўніцтва якой нядаўна адкрылася ў Мінску.*

У ходзе сустрэчы абмяркоўваліся пытанні магчымага супрацоўніцтва французскай кампаніі з шэрагам беларускіх прадпрыемстваў у галіне электроннай прамысловасці, вылічальнай тэхнікі, а таксама ў пытаннях усталявання ў Беларусі сучаснай сістэмы тэлекамунікацый. У прыватнасці, французскі бок мае сур'ёзны намер зрабіць пробны заказ мінскаму вытворчаму аб'яднанню "Інтэграл" на выраб камплектуючых, неабходных для гэтых сістэм. Пасля таго, як пробная партыя пройдзе тэстыраванне, плануецца заключэнне кантракта на выраб наступных партый.

### "Пазвані мне, пазвані..." – калі грошай хопіць

*Як паведамілі ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі, у студзені адбылося чарговае павышэнне цэн на тэлефонныя паслугі.*

Так, адна хвіліна міжгародняй размовы па Мінскай вобласці абыходзіцца прыватным асобам у 60 рублёў, арганізацыям — 80; у межах рэспублікі — адпаведна 120 і 160. "Хвіліннае задавальненне" тэлефанаваць у краіны СНД — ад 600 да 960 рублёў у залежнасці ад краіны, у Літву — 1300, Латвію — 1430, Эстонію і Польшчу — 1560. Хвіліна размовы з ЗША і Ізраілем каштуе 7800 рублёў.

За хатні тэлефон цяпер давядзецца плаціць 2 тысячы штомесяц. Абаненты арганізацый, якія працуюць у звычайным рэжыме, аплачваюць 240 тысяч у год, а пераведзеныя на пахвілінную аплату — 216 тысяч за год плюс па 20 рублёў за кожную поўную ці няпоўную хвіліну размовы.

Плата за ўстаноўку апарата — 80 тысяч рублёў для прыватных асоб (380 тысяч па-за чаргой) і 1 мільён 248 тысяч — для арганізацый. Гарадскія таксафоны пакуль застаюцца бясплатнымі, а вось жэтон для МТС "цягне" ўжо на 180 рублёў.

БелаПАН.

### Наваселлі–94

*І ў новым, 1994 годзе, нягледзячы на цяжкасці, прымуць жыхароў новыя, толькі пабудаваныя жылыя дамы ў розных раёнах сталіцы.*

Паводле слоў Аляксандра Вараб'ёва, начальніка капітальнага будаўніцтва Заводскага выканкама горада Мінска, хутка будзе заселены дзевяціпавярховы 128-кватэрны дом у мікрараёне Шабаны-1, напрадвесні прымуць наваселаў — працаўнікоў маторнага завода — 70-кватэрны і 72-кватэрны жылыя дамы ў пасёлку Паўночны. А ўвогуле, як зазначыў А.Вараб'ёў, будаўніцтва сёння абыходзіцца вельмі і вельмі дорага: 1 квадратны метр жылля каштуе 1 мільён 100 тысяч рублёў, што значна больш, чым у мінулым годзе.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Зрух у свядомасці?

*У Фрунзенскім раёне беларускай сталіцы адбыўся семінар гаспадарчага актыву, у рамках якога праводзілася анкетаванне ягоных удзельнікаў. Падсумоўваючы вынікі, раённая газета "Вяснянка" робіць выснову аб істотных зменах у нацыянальнай свядомасці беларускіх прадпрымальнікаў.*

Скажам, у пытанні аб перспектывах нацыянальнай валюты апытаныя дырэктары прадпрыемстваў, прэзідэнты акцыянерных таварыстваў, кааператары ўскладаюць спадзяванні не на што іншае, як на талер.

Большасць з іх на пытанне, каго бачыце кіраўніком беларускага ўраду, называюць У.Вольскага, У.Заблоцкага і толькі 20 працэнтаў свята вераць у эканамічны талент В.Кебіча.

Арганізатары анкеты ў публікуемым каментарыі прызнаюцца, што самі не чакалі такіх рэвалюцыйных вынікаў апытання.

Што ж, лепей рэвалюцыя, якая спее ў галовах, а ў жыццё выходзіць канструктыўнымі вынікамі, чым рэвалюцыя, якая выплюхваецца адразу на вуліцу.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, ЧЗ-інфарм.

### На вуліцы дзяцінства зноў свята

*Беларуская акадэмія фізкультуры і спорту сумесна з дзіцяча–юнацкім клубам правяла ў Фрунзенскім раёне сталіцы спартыўна–гумарыстычныя святы.*

Гульні, смех і жарты клоўнаў пад кіраўніцтвам Генадзя Гарэлага, нікога не пакінулі абыякавым.

Напрыканцы свята дзеці атрымалі пачастункі: шакаладкі, лімоны, апельсіны, бананы, набытыя, заўважым, без дапамогі спонсараў.

Алена КЛІМЕНКА, ЧЗ-інфарм.

### Сіла – у адзінстве. Арміі і народа

*Кіраўніцтва Віцебскай вобласці, занепакоенае падзеннем прэстыжу службы ў войску, зніжэннем патрыятычнай свядомасці юнакоў, вырашыла стварыць каардынацыйны цэнтр па ваенна–патрыятычнаму выхаванню моладзі.*

Старшынёй цэнтра зацверджаны Старшыня камітэта па справах моладзі аблвыканкама. А праводзіць ідэалагічную і фізічную загартоўку прызыўнікоў будуць прадстаўнікі абласных упраўленняў унутраных спраў, адукацыі, культуры, аховы здароўя, камітэты па фізічнай культуры і спорту і інш. Галоўная мэта новай грамадскай арганізацыі, якая створана, як здаецца, замест былога роднага ваенна-патрыятычнага сектара — правядзенне ў жыццё такога знаёмага і яшчэ не пазабытага лозунга: народ Беларусі і армія — адзіныя.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

### "Здайце... дзіця"

*Супрацоўнікі Самарскай міліцыі звярнуліся з просьбай да патэнцыяльных дзетазабойцаў.*

"Калі вам замінае ўласнае дзіця, аддайце яго ў міліцыю!". Кажуць, што маладзенькія адзінокія маці карыстаюцца гэтай прапановай.

Ніна ПРАКОПЧЫК.

### Курсы валют на 26 студзеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5780(6000) | 6070 | 3300 | 3465(3435) |
| "Белбізнесбанк" | 5850 | 6100 | 3350 | 3500 |
| "Прыор" | 5950 | 6200 | 3260 | 3530 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

# СВЯТА ДУШЫ




**"Паклон вам вельмі нізкі**
**Ад вёсачкі-калыскі,**
**Калыскі светлых мараў**
**Пра дом, зямлю і маму".**

*Словы гэтай песні, якая прагучала на рэспубліканскім фестывалі сямейных ансамбляў у Слоніме, сталі лейтматывам свята ў горадзе над паўнаводнай Шчарай. Любоўю да сваёй малой радзімы, да роднага дома і сям'і былі прасякнуты ўсе выступленні на фестывалі — першым у рэспубліцы буйным мерапрыемстве ў межах абвяшчанага Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнароднага года сям'і.*

*Сямейная мастацкая творчасць на Беларусі развіваецца даўно і паспяхова. Не раз у гарадах і раёнах праходзілі агляды і конкурсы сямейных ансамбляў. Але рэспубліканскі фестываль праводзіцца ўпершыню. Удзел у ім прынялі больш як сорак сямейных калектываў: спевакі і танцоры, частушачнікі і гармaністы, фальклорныя і інструментальныя гурты.*

*Фестываль у Слоніме стаў першай ластаўкай у распаўсюджанні сямейнай мастацкай творчасці. Няхай будзе шчаслівым яго працяг!*

Яўген КАЗЮЛЯ, Белінфарм.

■

ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

# Чацвёртыя суткі палалі дэбаты

□ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*У аўторак Вярхоўны Савет адправіў у адстаўку двух сілавых міністраў — Уладзіміра ЯГОРАВА і Эдуарда ШЫРКОЎСКАГА. Хто наступны?*

Наўрад ці можна лічыць гэтыя адстаўкі палітычным крокам, які прымірыць парламентарыяў і дасць ім магчымасць працаваць дзеля дабрабыту рэспублікі. Як адзначалі многія з іх, гэты Вярхоўны Савет вычарпаў сябе, і яго трыбуна выкарыстоўваецца выключна для будучых выбараў. Чатыры дні закрытых дэбатаў — таксама новы этап палітычнай барацьбы за галасы выбаршчыкаў. Аднак, як яна разгорнецца — прадказаць цяжка, бо паводзіны і шчырасць нашых дэпутатаў не могуць быць узорам. Паасобку яны супраць гэтага Вярхоўнага Савета, а ўсе разам за яго роспуск не бяруцца. Паасобку яны не падтрымліваюць рашэнне аб закрыцці доступу журналістаў у залу, а ўсе разам працістаяць яму не здолелі.

У аўторак перад галасаваннем па адстаўках мы спрабавалі высветліць, якім бачыцца зыход справы асобным дэпутатам. Бліжэй за ўсіх да ісціны быў Аляксандр Лукашэнка. У прыватнасці, ён сказаў, што найбольш верагодныя адстаўкі міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава і старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага, толькі потым Генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. Але, між іншым, дадаў, што ў гэтым выпадку Вярхоўны Савет лепей бы працаваць не стаў. Пытанне трэба разглядаць у кантэксце лёсу пяцярых асоб, і пакінуць свае пасады, на думку А.Лукашэнкі, павінны В.Кебіч, С.Шушкевіч, а тады трое вышэйназваных.

Судны дзень, аўторак, закончыўся прэс-канферэнцыяй, на якой журналісты ўрэшце рэшт пачулі афіцыйную думку аб падзеях. У размове прынялі ўдзел члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета: старшыня Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Мечыслаў Грыб, старшыня Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Іван Цярэшка, старшыня Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў.

Вось якія меркаванні яны выказалі.

**Мечыслаў Грыб:**

— Тэма закрытых дэбатаў зводзілася да затрымання двух былых кіраўнікоў кампартыі Літвы і выдачы іх суседняй дзяржаве. Мне вядомы факты (іх ён назваў шэсць — В.Ш.), калі і да гэтага спецыяльныя службы Літвы, Украіны, Расіі прыбывалі на тэрыторыю Беларусі і рабілі заходы па затрыманню нашых грамадзян, а таксама грамадзян іншых рэспублік па падазрэнню ці абвінавачанню ва ўчыненні злачынстваў па-за межамі Беларусі. Спецслужбы іншых дзяржаў знаходзіліся на нашай тэрыторыі са зброяй у руках, прыцягвалі людзей да адказнасці. Таму затрыманне двух літоўскіх грамадзян у апошнім выпадку не з'яўляецца нечым асаблівым. Гэта было чарговае парушэнне існуючага заканадаўства Беларусі і міжнародных правоў і норм. Згодна з імі ні адна спецслужба не мае права праводзіць на тэрыторыі нашай суверэннай дзяржавы якія-небудзь дзеянні па выяўленню, затрыманню і этапіраванню людзей. Гэта адносіцца да кампетэнцыі нашых праваахоўных органаў. А калі такое адбываецца, то якія ж мы суверэнныя.

Калі мы прымалі дэкларацыю аб суверэнітэце, то паставілі перад сабой задачу вылучыць на першы план чалавека і абарону яго законных правоў і інтарэсаў. І ўсе законы імкнёмся напрацоўваць у такім кірунку. Аднак факты сведчаць, што правы гэтыя парушаюцца, хаця праваахоўныя органы не раз папярэджваліся.

Таму дэпутаты прынялі такое неардынарнае рашэнне ў адносінах да двух сілавых міністраў.

**Іван Цішкевіч:**

— Мы разглядалі не проста пытанне аб сур'ёзным парушэнні па затрыманню дзвюх літоўскіх асоб і іх выдачы, сітуацыя з'явілася прычынай для разгляду сур'ёзных недахопаў у працы праваахоўных органаў. У наяўнасці парушэнне закона "Аб прававым становішчы грамадзян у Рэспубліцы Беларусь і асоб без грамадзянства", крымінальнага заканадаўства, рашэння канвенцыі СНД (удзельнікам яе з'яўляецца і Беларусь) і іншых міждзяржаўных дакументаў.

**Дзмітрый Булахаў:**

— Я лічу, што праблема, якая разглядалася, мае дзве плоскасці, і ў залежнасці ад той глыбіні аналізу, які прымяняецца да дадзенай сітуацыі, можна прыйсці да дыяметральна супрацьлеглых вывадаў.

З фармальнага боку Мечыслаў Іванавіч зусім правільна выклаў афіцыйны пункт гледжання Вярхоўнага Савета адносна падзей. Перш за ўсё, з іх трэба было ўбраць літоўскі і камуністычны акцэнты, і гэта было зроблена. Пытанне аб парушэнні канстытуцыйных правоў фізічных асоб, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі ў дадзенай сітуацыі не мае дачынення ні да Літвы, як да асобнай дзяржавы, ні да якойсьці дамінуючай партыі, ідэалогіі і г.д.

Улічваючы, што такія факты мелі месца і раней, тут ёсць цэлая серыя вельмі грубых парушэнняў законнасці, якія не можа заахвочваць ні адзін прадстаўнічы орган. Тым больш Вярхоўны Савет, які заяўляў у свой час у Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце аб імкненні пабудаваць прававую дзяржаву.

Але гэта адзін бок праблемы. Вынікам яе абмеркавання стала пакаранне ў жорсткай форме двух міністраў сілавых структур. Праўда, для мяне зусім нелагічным з'яўляецца пытанне аб Генеральным пракурору. Бо ні адзін з двух міністраў, якія атрымалі адстаўку, не дзейнічаў без ведама пракуратуры. А тое, што пракуратура была першапачатковым звяном у ланцугу даволі грубых парушэнняў законнасці, відавочна.

З другога боку гэта пытанне нельга адрываць і разглядаць па-за кантэкстам развіцця палітычнага працэсу ў Рэспубліцы Беларусь. І тут я выкажу асабісты пункт гледжання: міністры і Генеральны пракурор, пытанне аб даверы якім было пастаўлена Вярхоўным Саветам, апынуліся ў гэтай сітуацыі ў якасці стрэлачнікаў, на якіх фактычна зроблена спроба ўскласці ўсю адказнасць за прававую беззаконнасць, што адбываецца ў Беларусі.

Гэта беззаконнасць мае свае карані і многім абумоўлена адсутнасцю дакладна выражанай, рэальнай дзяржаўнай улады. Трэба ўлічыць і наяўнасць жорсткай, хоць і знешне прыкрытай добрымі намерамі ў адносінах адзін да аднаго, палітычнай барацьбы за лідэрства ў дзяржаве паміж двума фармальнымі і нефармальнымі лідэрамі. Я маю на ўвазе Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча. Адзін з іх прадстаўляе спектр палітычных поглядаў правей цэнтра, другі — лявей.

Яшчэ аб адным. Ці была магчымасць у людзей, якія ў дадзеным выпадку аказаліся стрэлачнікамі і вымушаны былі выступаць на баку адной з супрацьстаячых палітычных сіл, пазбавіцца такой сітуацыі? Для сябе я раблю адназначны вывад: магчымасць існавала. Не трэба было служыць гаспадару, трэба было служыць закону, і сітуацыя падобная на тую, што адбылася, не ўзнікла б. Я думаю, што мой аналіз не бясспрэчны, але глыбока перакананы, што разгляд падзей і пастаноўка пытання аб даверы службовым асобам сілавых структур — гэта прэлюдыя да больш сур'ёзнай палітычнай разборкі, якая ўжо ў бліжэйшыя дні ўзнікае на ўзроўні першых асоб нашай дзяржавы.

... А ўчора дэпутаты адчынілі дзверы і нават дазволілі ўключыць прамую трансляцыю сваіх пасяджэнняў. Аб тым, што на іх адбывалася, выбаршчыкі чулі.

## ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

"Уорлднэт" — "Еўраньюс" — "Суперчэннэл"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

### АВАРЫЯ

*Еўрапейскі ракетаносец, які ў панядзелак вечарам павінен быў вывесці на зямную арбіту 2 тэлекамунікацыйныя спадарожнікі, праз 6 хвілін пасля старту з французскага палігона ўпаў у мора з вышыні 200 кіламетраў.*

Прычыны аварыі пакуль невядомыя. На борце ракетаносца знаходзіўся першы турэцкі спадарожнік "Цюрк-Сат1А".

### ЯШЧЭ АДЗІН "ПРАЕКТ СТАГОДДЗЯ"

*Новы сумесны праект НАСА і Міністэрства абароны ЗША павінен увайсці ў гісторыю асваення космасу.*

Навукоўцы вырашылі дасканала вывучыць паверхню Месяца і нават зрабіць дакладную геаграфічную карту. Праект ацэньваецца прыкладна ў 75 мільёнаў даляраў.

### ВОЙСКАМ – ПА МАФІІ

*Урад Італіі накіраваў спецыяльныя войскі на поўдзень краіны для правядзення аперацыі па абясшкоджванню мафіёзных груповак.*

У акцыі будуць задзейнічаны больш тысячы вайскоўцаў. Нагодай паслужыла нядаўняе забойства сярод бела дня двух карабінераў, пра якое, дарэчы, рубрыка "Дзевятае неба" паведамляла ў адным з мінулых выпускаў. Аналагічнае рашэнне ўрад Італіі прыняў два гады таму ў адносінах да Сіцыліі, дзе да гэтага часу знаходзіцца звыш 5 тысяч салдат.

### ТЭРАРЫЗМ ПА–МАДРЫДСКУ

*Тры чалавекі паранены ў выніку выбуху бомбы, закладзенай у машыну на адной з вуліц іспанскай сталіцы.*

Яшчэ адзін выбух прагрымеў у Мадрыдзе раніцай у аўторак, калі на хаду ўзарваўся паліцэйскі аўтобус. У гэтым выпадку паранены два чалавекі. Паліцыя мяркуе, што гэта справа рук баскскіх падпольных груповак.

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ... ПЧАЛЯРОЎ

*Каля тысячы раз'юшаных пчаляроў сабраліся ў Брусэлі на дэманстрацыю.*

Яны выступілі супраць нізкіх сусветных цэн на мёд і запатрабавалі ад Еўрапейскай супольнасці мэтанакіраванай дапамогі для 16 тысяч прафесіянальных пчаляроў па ўсёй Еўропе. Мёд, які збіраюць яны, не вытрымлівае канкурэнцыі з вельмі танным прадуктам пчалярства з Аргенціны і Мексікі.

### ПАДСТАЎКА ДЛЯ... ВЕЖЫ

*Усё большую заклапочанасць італьянскіх улад выклікае Пізанская вежа, пабудаваная, як вядома, яшчэ ў XII стагоддзі.*

У цяперашні час адхіленне вежы ад вертыкалі складае прыкладна 5,2 метра і з кожным годам павялічваецца амаль на міліметр. Каб не дапусціць канчатковага падзення вежы, італьянцы пачалі з 1990 года падкладваць спецыяльныя "падстаўкі" пад яе фундамент.

### КАНЕЦ "СПРАВЫ ДЖЭКСАНА"?

*Адвакат Майкла Джэксана заявіў учора аб канчатковым несудовым вырашэнні справы па абвінавачванню сусветнавядомай поп–зоркі ў разбэшчванні малалетніх.*

"Такое вырашэнне справы ніякім чынам не гаворыць пра віноўнасць Майкла Джэксана, — заявіў прадстаўнік спевака. — Мой кліент не вінаваты, але ён не жадае, каб яго асабістае жыццё і кар'ера былі разбураны пустымі плёткамі". Аднак для канчатковага вырашэння канфлікту Джэксану давядзецца выплаціць свайму 14-гадоваму абвінаваўцу вялікую суму грошай. Паводле некаторых звестак, яна складае 10 мільёнаў даляраў.

### СУПЕРГРОШЫ

*Бялградскі Цэнтральны банк увёў у абарачэнне новую купюру, так званы супердынар, які прыроўнены да нямецкай маркі.*

Такой мерай югаслаўскі ўрад спадзяецца спыніць галапіруючую інфляцыю, якая ў снежні склала 1 мільён працэнтаў.

■

## Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі ВераПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Курс валют

Адзіны курс валют Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

1 даляр ЗША 6.930
1 DM 3.955,49
1 фунт стэрлінг. 10.361,2
1 фран. франк 1.164,99
1 швейц.франк 4.714,29
10 яп.іен 622,49
1 эстонская крона 494,44
1 карбованец 23 капейкі
1 літоўскі літ 1.775,56
1 латышскі лат 11.745,76
1 расійскі рубель 4

### Што такое малая прыватызацыя

*Што такое малая прыватызацыя? У чым неабходнасць яе хуткага і маштабнага праведзення ў рэспубліцы, як яна ўплывае на ўзровень цэн і паслуг, асартымент тавараў, як закранае вашы інтарэсы? Адказ на гэтыя пытанні вы знойдзеце ў рэкамендацыях замежных спецыялістаў, якія мы пачынаем друкаваць з сённяшняга выпуску "Бізнес-класа".*

*Такім чынам, пытанне першае: што такое малая прыватызацыя?*

Малая прыватызацыя — гэта перадача невялікіх прадпрыемстваў рознічнага гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання насельніцтва з дзяржаўнай уласнасці ў прыватную. Гэта невялікія прадпрыемствы (магазіны, кафэ, сталовыя, майстэрні па рамонту абутку і адзення, атэлье) з агульнай колькасцю працуючых менш як 200 чалавек і балансавым коштам менш 1 мільёна рублёў па ацэнках на 1 снежня 1992 года.

Прыватызацыя закладвае асновы рынкавай эканомікі і, у рэшце рэшт, больш высокага жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Вопыт малой прыватызацыі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе паказаў, што станоўчыя вынікі малой прыватызацыі могуць быць дасягнуты дастаткова хутка і эфектыўна. Справа не толькі ў тым, што прыватны сектар стымулюе вытворчасць больш якасных тавараў і паслуг, але і ў тым, што даходы, як прамыя, так і ўскосныя, праз падаткі стымулююць інвестыцыі ў развіццё інфраструктуры і фінансаванне сацыяльных праграм.

Аптымальныя шляхі прыватызацыі — праз адкрытыя, раўнапраўныя аўкцыённыя таргі, дзе кожны пакупнік (як юрыдычная, так і прыватная асоба) можа стаць уласнікам любога прадпрыемства па свайму выбару. У большасці выпадкаў аб'екты прадаюцца як "дзеючае прадпрыемства", г.зн. з усімі сваімі актывамі і пасівамі, правамі і абавязкамі, уключаючы тыя, якія адносяцца да супрацоўнікаў прадпрыемства.

Існуюць два тыпы адкрытых аўкцыённых таргоў: аўкцыён і конкурс. На аўкцыёне аб'екты прадаюцца без якіх-небудзь умоў адносна далейшага выкарыстання аб'екта прыватызацыі. Удзел у конкурсе мае на ўвазе абавязак пакупніка выканаць пэўныя ўмовы адносна далейшага карыстання аб'ектам прыватызацыі. Гэтыя ўмовы могуць уключаць працяг гандлю пэўнымі таварамі першай неабходнасці, такіх, напрыклад, як хлеб ці малако.

У мэтах паспяховага правядзення малой прыватызацыі неабходна захаванне трох прынцыпаў: 1) Малая прыватызацыя павінна быць адкрыта для свабоднага ўдзелу ўсіх жадаючых і для грамадскага кантролю; 2) Служыць інтарэсам: грамадства — шляхам стварэння канкурэнтных рыначных умоў, якія ў найбольшай ступені ўлічваюць патрэбы спажыўца; працоўных калектываў — прадастаўляючы ім спрыяльныя магчымасці стаць уласнікамі; прадпрымальнікаў — праз гарантыі таго, што іх уласнасць не заснавана на палітычных сувязях; 3) Працэс малой прыватызацыі павінен ісці хутка. Праграма павінна быць рэалізавана ў магчыма кароткія тэрміны ў мэтах стварэння канкурэнтнага асяроддзя, прадастаўляючы такім чынам спажыўцу магчымасць ацаніць перавагі прыватызацыі. Ва ўмовах абмежаванай колькасці прыватызаваных аб'ектаў адсутнасць канкурэнтаў прыватных прадпрыемстваў не стымулюе яго да прапановы больш якасных тавараў або паслуг. Прыватызацыя прадпрыемстваў павінна быць завершана ў самыя кароткія тэрміны ў мэтах паслаблення сацыяльнай напружанасці, як у працоўных калектывах, так і сярод спажыўцоў.

### "Лён і тэкстыль"

Пад такой назвай 24—28 студзеня ў выставачным комплексе "Мінск-экспо" праходзіць выстава. Удзельнікі яе — каля 30 кампаній з блізкага і далёкага замежжа — прадставяць тэхналогію і абсталяванне для вырабу і перапрацоўкі льну, прадукцыю льназаводаў, сыравіну і абсталяванне для тэкстыльнай прамысловасці, тэкстыльныя вырабы і льняныя тканіны.

А.СЦЯПАНАЎ.

СКРЫЖАВАННЕ

# Час словаблудства

Барыс САФРОНЕНКА, "ЧЗ"

*Наколькі мала ўдаецца нам у часе прагрэсіраваць, настолькі невынішчальная наша цяга ўсялякую эпоху вызначаць, пратакаліраваць і інвентарызаваць пад канкрэтнай назвай. У гэтым — наш бюракратычны дух. Час Сталіна мы вызначылі як тыранію, час Хрушчова — адлігай, кіраванне Брэжнева як перыяд застою, а Гарбачова — перабудовай. Калі прытрымлівацца гэтай традыцыі, то сённяшнюю нашу рэчаіснасць можна назваць часам словаблудства.*

"Спачатку стварыў Бог неба і зямлю",— гэта пачатковыя словы Бібліі. Значыць, спачатку ўсё ж была справа, стварэнне. І толькі потым:"І сказаў Бог: няхай будзе свет". У нас сёння ўсё наадварот. Справы, развіцця, не кажу ўжо стварэння,але нават творчага плённага пошуку няма, затое слоў шмат. Мы ператварыліся ў краіну гаваруноў, з той толькі розніцай, што, паводле Кіра Булычова, "птушка гаварун адрозніваецца розумам і кемлівасцю", а мы — на жаль.

Моду і благаславенне на пустыя, дарэмныя размовы ва ўсіх слаях грамадства ўсенародна дае наш парламент, які гаворыць кожны дзень на ўсялякія тэмы, акрамя, напэўна, зусім непрыстойных, з уражлівай разнастайнасцю адценняў. Вельмі рознагалосы ў нас парламент, ва унісон дэпутаты, якія яго складаюць, гавораць, па-мойму, толькі ў адным выпадку — калі справа датычыцца іх ільгот. А так па кожнай абмяркоўваемай тэме ўзнікаюць дзесяткі думак, непадобных, супрацьлеглых, а то і варожых адна адной. Затое слова "народ" гучыць практычна ва ўсіх выступленнях, гэтым словам, ссылкай на нейкую народную думку прыкрываюць дыяметральна супрацьлеглыя погляды. Паслухаеш дэпутатаў, і такое ўяўленне, што народ — гэткая стагаловая гідра, і галовы яе ненавідзяць і кусаюць адна адну. Міжволі падумаеш: як гэта да гэтага часу яна сама сябе не з'ела?

"Народ — за поўнае аб'яднанне з Расіяй, а ўжо за аб'яднанне эканомікі і грашовых сістэм — дакладна",— гавораць адны. "Не,— пераконваюць другія,— народ за поўную самастойнасць Беларусі, мала таго, у ім яшчэ жывыя традыцыі Вялікага княства Літоўскага". "Народ за хутчэйшую і поўную прыватызацыю",— гавораць адны. "Беларусы супраць аднаўлення капіталізму",— пярэчаць ім. Тэрмін "народ", як мячык у пінг-понгу, перакідваюць яны як толькі хочуць.

А што ў гэты час робіць народ? У большасці сваёй наогул не слухае палітыкаў, не думае ні пра якія партыі. Гэта і паказалі нядаўнія выбары ў Расіі, якія ледзь не праваліліся, таму што палова насельніцтва не прыйшла галасаваць. Усе лічаць, што характэрная перамога Жырыноўскага. Але ўсенародная апатыя, па-мойму, больш характэрная. Няўжо дэпутаты сур'ёзна думаюць, што ў нас, у Беларусі, народ больш зачараваны іх прамовамі, і ў выпадку выбараў у нас вынік будзе іншым?

Мая знаёмая — пажылая жанчына, якая шмат гадоў адпрацавала медсястрой (таксама, увогуле, адна з народа), занепакоена сёння больш за ўсё вось чым: сорак пяць гадоў працавала, з іх апошнія гадоў дваццаць капіла грошы сабе на пахаванне, і крыўдна ёй, што за паўстагоддзя цяжкай працы на дастойнае пахаванне так і не зарабіла, баіцца, што пахаваюць яе без труны. "Уначы прачынаюся,— гаворыць яна, — як уяўлю, што я ў магіле без труны ляжу". Амаль у любой краіне такія апасенні аднеслі б да галіны псіхіятрыі, але ў нас яны рэальныя, боязь маёй знаёмай зусім можа ператварыцца ў рэчаіснасць. У Свіслацкім раёне мясцовыя жыхары расказвалі, што ў іх увосень труны сапраўды здаваліся ў арэнду, адна на некалькі нябожчыкаў. Дык вось гэтая пажылая жанчына, сястра міласэрнасці, змучаная эканамічнымі эксперыментамі, лічыць, што лепшае жыццё можа настаць толькі калі вайна пройдзе. Яна ўспамінае, як пасля Айчыннай чалавек чалавеку быў рады, дзяліўся нават з незнаёмымі апошнім. А цяперашняе жыццё не любіць, не разумее і не супраць таго, каб яна ў пекле вайны датла згарэла.

Другі мой знаёмы — высокакваліфікаваны рабочы-электроншчык яшчэ некалькі гадоў таму быў актывістам. У мітынгах на плошчы Незалежнасці ўдзельнічаў, патрабаваў адстаўкі парламента, урада. Даводзілася самому ад імя рабочых выступаць. А зараз — разгублены:"Думаў, камуністы вінаватыя, а пайшлі яны — яшчэ горш стала. Думаў, у тым уся справа, што суверэнітэту няма, што ад Расіі залежым, а аказалася: з суверэнітэтам жыць — крый Божа. У мяне шосты разрад, а завод мой у месяц адзін тыдзень працуе, і на сорак тысяч у месяц жыву, добра, што ўмею тэлевізары рамантаваць, плітку класці, дык нешта магу падзарабіць. Палітыкай па горла сыты. Але вось, што Жырыноўскі ў Расіі перамог — нікольки не здзівіўся. І я б за яго прагаласаваў. Бо нельга ж, недарэчна галасаваць за таго, хто цябе абкрадвае. На вуліцы цябе рабаўнік спыніць — ты будзеш яму дзякаваць? Не, ты будзеш на дапамогу клікаць любога прахожага. А Жырыноўскі дапамогу прапануе, хоць ён, можна сказаць, прахожы".

Па-мойму, трапнае, няхай сабе і ненавуковае тлумачэнне, чаму народ у Расіі пайшоў за такім, як Жырыноўскі.

У нас эканамічнае становішча і раней было блізкім да расійскага, а цяпер з аб'яднаннем грашовых сістэм і тым больш будзе залежаць ад вялікай і не ва ўсім зручнай для нас суседкі. Я, напрыклад, зусім не здзіўлюся, калі больш, чым нашы дамарослыя гайдары, на бліжэйшых выбарах галасоў набярэ, скажам, граф Прушынскі. Не таму, што ён добры палітык і эканаміст. Нікому невядома, які ён эканаміст і палітык, і наогул ніхто толкам пра яго нічога не ведае. Але злосці на яго, як чалавека, чые рэфарматарскія патугі не ўдаюцца, у беларусаў пакуль што няма. Ён — той прахожы, пра якога многія могуць падумаць: а, можа, выратуе ад абрабавання. Асабліва, калі будзе пераканаўча абяцаць, што выратуе. Ва ўсякім разе, даводзілася чуць у чэргах, як два мужчыны прыйшлі да высновы, што ў выпадку чаго галасаваць трэба за графа, паколькі "ён багаты, красці не будзе".

Ад жабрака, прыціснутага праблемай "як выжыць" чалавека проста наіўна патрабаваць палітычнай свядомасці, разумення бягучага моманту, бачання перспектывы і іншых прыгожых рэчаў, якія парламентары ў сваіх выступленнях ахвотна прыпісваюць народу. Той, хто ў адчаі, будзе хапацца за саломінку і ахвотна падтрымае сваім голасам таго, хто пакуль што мала скампраментаваны, чыя праграма рэзка адрозніваецца ад той, што прывяла да пагаршэння жыцця, і хто як асоба больш зразумелы і абаяльны. Вось тры ўмовы, якія могуць прывесці любога да ўлады ў краіне, дзе эканоміка ў агоніі, а народ у адчаі.

Разам з тэрмінам "народ" часцей за ўсё гучыць з высокіх трыбун тэрмін "суверэнітэт". Кожная парламенцкая фракцыя гаворыць, што зыходзіць з інтарэсаў суверэнітэту рэспублікі. Аднак з 1990 года, калі гэты суверэнітэт быў абвешчаны ледзь не з благаславення Масквы, нягледзячы на бесперапынна выказваемую на самым высокім узроўні прыхільнасць да яго, усё, што адбываецца, служыць яго памяншэнню. А сёння, з аб'яднаннем грашовых сістэм, размовы пра тое, што незалежнасці рэспублікі гэта не пашкодзіць, інакш як словаблудствам не назавеш.

З эканамічнага пункту гледжання адчайны кідок пад крыло Расіі, можа, і сапраўды адзінае выйсце, якое бачыць наш урад, каб выратаваць народ ад поўнай галечы. Пры наяўнасці многіх "калі". Калі цэны на базавыя матэрыяльныя рэсурсы, з якіх выраблюцца тавары, будуць аднолькавыя для нас і для Расіі. Калі курс "зайчыкаў" будзе роўны курсу рубля пры абмене. Калі наша вялікая суседка не будзе і ў далейшым прыціскаць нас у цэнах. Але самая галоўная ўмова напрошваецца сама сабой: калі адбудзецца поўнае зліццё нашых эканомік пры ўмове, што эканоміка Расіі яўна пойдзе ўгару. Але, панове, пра які суверэнітэт у такім выпадку поўнага зліцця матэрыяльных рэсурсаў і адной грашовай сістэме можна гаварыць? Аніякага самастойнага эканамічнага курсу Расія для беларусаў не пацерпіць і будзе мець рацыю: не карэкціраваць жа ёй кожны раз свае эканамічныя праграмы з-за малодшай сястры, калі тая гэту канкрэтную праграму не падтрымае, палічыць асабіста для нашай рэспублікі нявыгаднай? Калі мы станем, напрыклад, мацаваць эканамічныя сувязі з Германіяй, аб чым і абвясцілі, як аб адным з прынцыпаў знешнеэканамічнай палітыкі, а Расія, дзе ўжо зараз моцны ўплыў Жырыноўскага і да яго падобных, перанясе сферу сваіх інтарэсаў на Поўдзень? Ужо сёння вядома, што вялікіх уступак Беларусі не будзе, ва ўсякім разе, дабівацца іх прыйдзецца з цяжкасцю. Бо яшчэ ж не аб'ядналіся нашы з Расіяй грашовыя адзінкі, а ўжо чуюцца незадаволеныя галасы, скажам, Ягора Гайдара, аб немэтазгоднасці прыраўноўвання "зайчыка" да рубля, ды і сама важнасць для Расіі саюза нашых дзвюх рэспублік ставіцца пад сумненне. Тым больш відаць, што калі і адбудзецца перапляценне нашых эканомік і грашовых адзінак, то хутчэй шляхам поўнага падпарадкавання спакутаванай эканомікі Беларусі таксама змучанай, але больш магутнай і разгалінаванай эканоміцы Расіі. У прыватнасці, захоўваючы на словах суверэнітэт, мы на справе станем той губерняй з былых рэспублік, пра з'яўленне якіх так марыць спадар Жырыноўскі.

Я ўжо не кажу пра тое, што заходнія краіны часова крэдыты нам прытрымаюць. На Захадзе спачатку пераканаюцца, што мы — не частка Расіі, а потым ужо вернуцца да размовы з намі, як самастойнымі партнёрамі. Не можа не насцярожваць і вельмі рэальная пагроза ўдзелу беларусаў у міжнацыянальных канфліктах у Расіі, ля яе дзяржаўных граніц, ва ўнутраных беспарадках, якія ў апошні час часта адбываюцца ў нашай суседкі і наўрад ці спыняцца пры такім кангламераце ненавідзячых адзін аднаго палітычных сіл. Без сумнення, трэба чакаць у нас узмацнення пазіцыі нацыянал-шавіністычных партый. Яны ўжо на Беларусі не навінка.

Не ўпэўнены, што нашай беларускай культуры будзе лёгка ўстаяць пад націскам друкаванай прадукцыі Расіі. Да гэтага часу прадаваць у нас кнігі, выдадзеныя ў Расіі, было далёка не заўсёды выгадна і з-за рознасці грашовых адзінак, і нізкай плацежаздольнасці нашага насельніцтва. Цяпер трэба чакаць літаральна шквалу эротыка-дэтэктыўна-містычнай літаратуры, не маючай нічога агульнага з беларускай культурай. Ці змогуць нашы майстры пяра адваяваць свайго чытача ў заходніх і расійскіх майстроў масавай культуры? Вельмі няўпэўнены ў гэтым. У беларускай літаратуры пры ўсіх яе мастацкіх дасягненнях няма або амаль няма традыцый чыстай забаўляльнасці. У нас — іншы спосаб адлюстравання свету, іншая душа.

У адным артыкуле не раскажаш пра ўсе "падводныя рыфы" сімпатычнага для многіх рашэння аб'яднаць нашы з Расіяй грашовыя сістэмы. Будзем спадзявацца, што жыць пасля гэтага стане лягчэй. Але, напэўна, не трэба сцвярджаць, што ад гэтага Беларусь стане ледзь ці не больш незалежнай, чым цяпер.

Фота Г. СЯРГЕЕВА.

# ЗВАРОТ да грамадзян, Вярхоўнага Савета, урада, грамадскіх арганізацый Беларусі

У бягучым стагоддзі Беларусь перажыла часы адраджэння, дзяржаўнага нацыянальна-культурнага, дэмакратычнага, і часы трагедыі, якая прывяла Бацькаўшчыну да мяжы разбурэння, мяжы нацыянальнай катастрофы. Адным з самых драматычных перыядаў жыцця краіны стаў перыяд другой сусветнай вайны і час, які непасрэдна папярэднічаў і ішоў за ёю: ад 1930—1939 гг. і ў пасляваенны перыяд, калі краіна ўслед за рэпрэсіямі і за фашысцкай акупацыяй, за Курапатамі і Трасцянцом перажыла заняпад нацыянальнай мовы і культуры і аказалася на мяжы разбурэння грамадзянскай супольнасці Беларусі.

У 1941—1944 гг. у г.Мінску і яго ваколіцах быў створаны і дзейнічаў буйнейшы ў свеце д'ябальскі механізм фізічнага знішчэння і маральнага падаўлення людзей. У турме па вул.Валадарскага, турме СД па вул.Астроўскага, Мінскім гета, лагерах па вул.Даўмана, Шырокай, у пасёлках Драздыя, Масюкоўшчына, у месцах масавых смяротных пакаранняў ва Уручча, Навінках, на Кальварыі, каля в.Глінішча, ва ўрочышчах Благаўшчына і Шашкаўка і ў лагеры смерці каля вёскі Малы Трасцянец знішчаны многія сотні тысяч грамадзян Беларусі, былога СССР, а таксама шэрагу краін Еўропы. Аднак, на жаль, многія старонкі гісторыі да гэтага часу не высветлены.

Менш за ўсё вядома пра існаванне і дзейнасць у 1942—1944 гг. лагера смерці "Трасцянец", у якім загінула па розных звестках ад 206 да 546 тысяч людзей. У ваколіцах вёскі М.Трасцянец, ва ўрочышчах папабапал Магілёўскай шашы, дзе да самага апошняга часу размяшчаўся палігон, стрэлы грымелі па начах, пачынаючы з пачатку 30-х гадоў. Толькі ва ўрочышчы Благаўшчына, побач з якім знаходзіцца гарадская звалка пасляваенных гадоў, пахаваны ў 34 ірвах каля 150 тысяч ахвяр вайны. На гэтым месцы няма ля дарогі спецыяльнага ўказальніка, няма і мемарыяльнага знака на месцы трагедыі.

Па невядомых прычынах звесткі пра дзейнасць буйнейшага ў свеце лагера смерці "Трасцянец" не трапілі на стол міжнародных следчых арганізацый, якія рыхтавалі Нюрнбергскі працэс, на якім быў асуджаны фашызм. Больш таго, да гэтага часу не выпушчана ў свет ніводнай кнігі, ні знята ніводнага фільма, не абвешчана пра стварэнне Нацыянальнай гісторыка-ахоўнай зоны на тэрыторыі былога лагера смерці. Няма і Кнігі памяці ахвяр вайны, ахвяр лагера смерці. Дакументы і матэрыялы, якія маглі б прыадкрыць таямніцу лагера смерці, не вывучаны і раскіданы па сховішчах і зборах многіх краін Еўропы.

У гэтых абставінах па ініцыятыве грамадскасці, пры ўдзеле гісторыкаў, юрыстаў, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, ветэранаў вайны, прадстаўнікоў многіх зацікаўленых арганізацый і ўстаноў у Мінску створаны гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец". Фонд пачаў дзейнічаць напярэдадні 50-годдзя вызвалення краіны і перамогі ў другой сусветнай вайне і будзе ўдзячны грамадзянам, службовым асобам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый за дапамогу па збору матэрыялаў і дакументаў, звязаных са смертаноснай дзейнасцю лагера смерці Трасцянец, і за іншыя факты садзеяння яго працы па выпуску ў свет друкаваных матэрыялаў, кіна- і фотадакументаў, арганізацыі і вядзенні асветніцкай працы сярод насельніцтва Беларусі. Фонд звяртаецца да грамадзян, якія сталі ахвярамі вайны і таталітарызму, іх родзічаў, блізкіх, сведкаў азначаных вышэй падзей з прапановай прадставіць у яго распараджэнне дакументы, успаміны і матэрыялы адпаведнага характару.

Ва ўмовах, калі краіна аказалася ў стане абвальнага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу, калі ў грамадстве паўстае пагроза новага вітка насілля і вяртання таталітарызму, гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец" звяртаецца да грамадзян, Вярхоўнага Савета і ўрада, іншых грамадскіх арганізацый Беларусі падтрымаць ініцыятыву аб абвяшчэнні 1994 года годам памяці ахвяр вайны і генацыду, адчышчэння ад таталітарызму, насілля і жорсткасці, годам грамадзянскага прымірэння і згоды ў краіне дзеля будучыні Бацькаўшчыны, станаўлення дэмакратычнай, незалежнай, нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы як гаранта выжывання народа, развіцця грамадства і росквіту асобы.

**Яўген ЦУМАРАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня гісторыка-мемарыяльнага фонду "Трасцянец".**
**Мікалай ЕМЯЛЬЯНАЎ, навуковы кіраўнік праекта зон аховы помніка гісторыі рэспубліканскага значэння былога лагера смерці "Трасцянец", сябра фонду.**
**Лявон ДЗЕЙКА, народны дэпутат Беларусі, сябра фонду.**
**Сяргей ЛЕЎШУНОЎ, кандыдат юрыдычных навук, сябра фонду.**
**Раіса ЧАРНАГЛАЗАВА, загадчык партызанскага сектара Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сябра фонду.**
**Віталь СКАЛАБАН, гісторык, сябра фонду.**
**С.У.ВЕЧАР, галоўны спецыяліст Упраўлення культуры Мінаблвыканкама, сябра фонду.**
**Анатоль ГУРЫНОВІЧ, намеснік старшыні Мінгарсавета, сябра фонду.**
**Яўген НОВІКАЎ, народны дэпутат Беларусі.**
**Віктар АЛАМПІЕЎ, народны дэпутат Беларусі.**
**Ала ВАНЬКЕВІЧ, вучоны сакратар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, намеснік старшыні фонду.**
**Уладзімір КОЛАС, кінарэжысёр, дырэктар БГАКЦ, сябра фонду.**
**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, сябра фонду.**
**Алег ТРУСАЎ, народны дэпутат Беларусі, старшыня БСДГ.**
**Алесь ЧАРНЯЎЧЫК, выкладчык, сябра фонду.**
**Тамара ФАМЕНКА, навуковы супрацоўнік РЦЭВД, сябра фонду.**
**Анатоль СІДАРЭВІЧ, гісторык, публіцыст.**
**Таццяна ПАЛЯКОВА, кіраўнік прэс-цэнтра БСДГ, сябра фонду.**
**Мікола КІЙКА, эканаміст, сябра фонду.**
**Міхаіл ЖУКОЎСКІ, народны дэпутат Беларусі, старшыня Камісіі ВС па справах ветэранаў і інвалідаў.**
**Мікалай ЖУРАЎЛЁЎ, народны дэпутат Беларусі, намеснік старшыні Камісіі ВС па справах ветэранаў і інвалідаў.**
**Аляксандр Аляксандравіч БАГДАНОВІЧ-САПЕГА, Вялікі Князь Таварыства "Вялікае княства Беларускае, Літоўскае, Смаленскае, Валынскае і Кіеўскае".**
**Мікола СТАТКЕВІЧ, старшыня БЗВ.**

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### Жыві, сям'я!

*Сёлета — Міжнародны год сям'і.*

Зберагчы сям'ю, асабліва мнагадзетную, у наш час, калі растуць цэны, калі смяротна пагражае беспрацоўе, нялёгка. Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне падтрымаць мнагадзетныя сем'і. Зараз маці, якія выхоўваюць ад трох да пяці дзяцей, кожны квартал будуць атрымліваць мінімальную зарплату, а тыя, хто мае больш чым пяць дзяцей, — дзве мінімальныя зарплаты. Грошы выдаткоўваюцца з фонду... непрадбачаных расходаў.

### Пра Чашнікі — па-яўрэйску

*Перакладзены на беларускую мову, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў нядаўна паэтычны зборнік Рыгора Рэлеса "З тых жа крыніц".*

Выхад чарговай кніжкі супаў з васьмідзесяцігоддзем пісьменніка. Рыгор Рэлес нарадзіўся ў Чашніках. З Віцебшчынай цесна звязаны і перыяд яго творчага сталення. Таму нядзіўна, што ў новай кніжцы чытачы знойдуць знаёмыя, родныя вобразы: і пявучую Дзвіну, і вярбіну над Ульянкаю, і Слабодскі мост у Чашніках. Многія творы пісьменніка пераклаў з яўрэйскай мовы Рыгор Барадулін.

### Парацэтамол купляюць у ... камерсантаў

*Зараз віцябчане купляюць многія вострадэфіцытныя лекі ў... камерсантаў. У горадзе адкрылася камерцыйная аптэка.*

Па-першае, там ёсць усё, чаго няма ў звычайных. Па-другое, некаторыя лекі, скажам, парацэтамол альбо куранціл, у камерсантаў каштуе ...танней, чым у дзяржаўнай аптэцы. Ці не настае ў Віцебску медыцынскі камунізм? І ўсё ж, думаецца, не зашкодзіць параіць хворым, купляючы лекі, звяртаць увагу на ўпакоўкі.

Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.

### Ах, фестываль...

*СМАРГОНЬ. Днямі ў горадзе завяршыўся III Міжнародны музычны фестываль-конкурс імя Міхаіла Агінскага.*

На яго былі запрошаны і прынялі ўдзел музыканты з Беларусі, Францыі, Літвы, Польшчы і Італіі. Менавіта з гэтымі краінамі быў звязаны як жыццёвы, так і творчы лёс кампазітара.

### Як у былыя часы, пякуць хлеб у вёсцы

*ГРОДЗЕНСКІ РАЁН. Згадзіцеся, што прыемна пакаштаваць свежы хлеб ці батон, якія выпечаны не на заводзе ў горадзе, а ў сваёй вёсцы.*

Такую магчымасць цяпер маюць працаўнікі сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства "Прагрэс".

Зусім нядаўна тут пачаў працаваць свой невялікі хлебазавод, на якім выпякаюць, акрамя хлеба, яшчэ і булачкі, а таксама іншыя кандытарскія вырабы. Прадукцыя карыстаецца даволі высокім попытам не толькі ў мясцовых жыхароў, але і ў Гродна.

Завод аснашчаны італьянскім абсталяваннем.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

100 артыкулаў

# На эшафоце

*Эдуард Аляксандравіч КАРНІЛОВІЧ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры паліталогіі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. У 1955—58 гадах служыў у Савецкай Арміі, потым працаваў на Мінскім заводзе буддэталей, рэдактарам і старшым рэдактарам маладзёжных праграм Беларускага тэлебачання (1962—64), у Мінскім абкоме камсамола. З 1965 года — на выкладчыцкай рабоце. Аўтар кніг "Платон Галавач — публіцыст", "Рэвалюцыяй прызваныя", "Людзі рэвалюцыйнага подзвігу", "На грэбені гісторыі", шматлікіх артыкулаў на гісторыка-палітычныя тэмы. Даўні аўтар нашай газеты, дзе ў 1960 г. упершыню надрукаваў нарыс "Увесь цэх — твая радня".*

У Пецярбургу ўрачыста і пышна адсвяткавалі дваццаціпяцігоддзе царствавання Аляксандра II. А на другі дзень, 20 лютага 1880 года, імператар атрымаў паведамленне пра замах Младзецкага на жыццё графа М.Т.Лорыс-Мелікава.

Незадоўга да гэтага граф быў прызначаны старшынёй "Вярхоўнай распарадчай камісіі па ахове дзяржаўнага парадку і грамадскага спакою" з падпарадкаваннем яму трэцяга аддзялення і корпуса жандараў. Дзейнасць гэтага змрочнага царадворца, азнаменаваная туманнымі абяцаннямі рэформ і ліберальнымі фразамі, якія прыкрывалі жорсткую расправу над рэвалюцыянерамі, выклікала шырокі пратэст перадавых людзей Расіі.

Вядомы рускі публіцыст, ідэолаг народніцтва Мікалай Міхайлоўскі пісаў: "Графу адпавядала цьмяная рэпутацыя разумнага і ліберальнага чалавека, і сам ён з першага ж дня свайго дыктатарства стаў мякка і ласкава варушыць лісіным хвастом... Адкрытая рэакцыя, нахабна-жорсткая і шалёна-крыважэрная, засумавала. Яна апусціла б галаву яшчэ ніжэй, калі б граф з першага кроку не паказаў, што ў яго ёсць не толькі лісіны хвост, а таксама воўчы рот. Мы разумеем пакаранне Младзецкага".

...Іпаліт Осіпавіч Младзецкі нарадзіўся ў кастрычніку 1855 года ў беларускім горадзе Слуцку, у сям'і дробнага гандляра. Ён вучыўся ў мясцовай мужчынскай гімназіі, але не скончыў яе: выключылі з апошняга курса. Давялося набываць веды самаадукацыяй. У дваццаць гадоў ён быў ужо даволі начытаным, ведаў літаратуру. Працуючы надомным настаўнікам, займаючыся прыватнымі ўрокамі, Младзецкі аб'ехаў шматлікія беларускія гарады і сёлы. Старая рэвалюцыянерка-нарадаволка Генрыета Мікалаеўна Дабрускіна, дзяцінства якой прайшло ў Рагачове, успамінала: "Вечарамі чыталі Гётэ, Гейнэ, Бёрнс. Нас было пяць чалавек дзяцей. Вучыліся мы спачатку дома. Некаторы час жыў у нас і займаўся з намі Младзецкі... Была яшчэ малая і пэўных успамінаў аб ім не захавала, акрамя таго, што ён быў выдатным педагогам". Паводле слоў нарадаволкі, Іпаліт Младзецкі быў добра знаёмы з прагрэсіўнай рускай і замежнай літаратурай, валодаў выдатным педагагічным талентам, здольнасцю ўплываць на маладыя розумы. Яго вельмі непакоілі лёсы прыгнечаных мас, ён увесь перапоўнены нянавісцю да царскага самадзяржаўя. Па сваіх палітычных поглядах Младзецкі прымыкаў да рэвалюцыйных народнікаў, і яму хацелася хоць што-небудзь зрабіць у імя абяздоленых і прыніжаных. Бываючы ў некаторых гарадах і мястэчках у другой палове 70-х гадоў, ён вёў прапаганду сярод насельніцтва Заходняга краю.

Летам 1879 года Іпаліт Осіпавіч накіраваўся ў Санкт-Пецярбург, дзе хутка атрымаў месца выхавальніка сына прафесара Акадэміі мастацтваў Н.Е.Свярчкова ў Царскім Сяле. Аднак на прыватнай службе ў цудоўных пушкінскіх месцах ён доўга не затрымаўся. У першыя дні студзеня 1880 года Младзецкі прыязджае ў Пецярбург, наладжвае кантакты з членамі тайнай арганізацыі "Народная воля", абдумвае планы ўласных дзеянняў. Аднаго разу, гуляючы па горадзе, Младзецкі "з цікаўнасці" зазірнуў у адзін з падвалаў Зімняга палаца. Яго, наіўнага, схапіла паліцыя і 12 студзеня выслала са сталіцы, як падазронага, які не меў пэўных заняткаў, маёмасці і пастаяннага месца жыхарства.

Не жадаючы вяртацца ў родны Слуцк, Младзецкі спыніўся ў Мінску, дзе больш за тыдзень знаходзіўся пад часовым арыштам. У рапарце мінскага губернатара А.Пятрова паведамлялася: "Младзецкі быў вызвалены 23 студзеня, але на час пошукаў кватэры выконваючы абавязкі паліцмайстра дазволіў яму прыходзіць на начлег у паліцэйскае ўпраўленне... Младзецкі часам па просьбе дзяжурных запісваў у кнігу нераспячатаныя пакеты, адрасаваныя ў паліцэйскае ўпраўленне, а таксама перапісваў рапарцічкі пра арыштаваных, якія ўтрымліваліся пры паліцыі, прычым ён змог выклікаць да сябе некаторы давер малодшых паліцэйскіх чыноўнікаў, з якімі штодзённа сустракаўся".

Скарыстаўшы абстаноўку даверу, Младзецкі ўкраў ва ўпраўленні рэвальвер, які пакінуў паліцэйскі чыноўнік, і 27 студзеня непрыкметна пакінуў Мінск. Пакуль паліцыя займалася пошукамі, Іпаліт зноў з'явіўся ў Пецярбургу. Яго душа прагла неадкладнай барацьбы з душыцелямі свабоды, зносьбітамі царскай улады. Усім сэрцам ён ненавідзеў жорсткую дыктатуру графа М.Т.Лорыс-Мелікава, які

Дзевятае неба



## Варожыя групоўкі бяруцца за стрэльбы

Левыя экстрэмісты ў Калумбіі, згодна з існуючымі сёння звесткамі, забілі 35 чалавек і паранілі 11 у выніку нападзення на варожую групоўку ў паўночна-заходнім раёне краіны. Гэта, па сутнасці, першы падобны выпадак у 1994-м годзе.

## Самае буйное землетрасенне ў ЗША

Губернатар Каліфорніі Піт Уілсан заявіў, што страты ад землетрасення ў Лос-Анжэлесе на мінулым тыдні складаюць каля 30 мільёнаў даляраў. Гэта землетрасенне — самы буйны прыродны катаклізм за ўсю гісторыю ЗША. Каля 12 тысяч чалавек атрымалі матэрыяльную дапамогу ад урада. Каля 27 тысяч зарэгістраваны як пацярпеўшыя, якім патрэбна ўрадавая дапамога. Звыш 10 тысяч пакуль яшчэ не маюць нават часовага жылля. Агульная колькасць загінуўшых у панядзелак склала 56 чалавек, 5 тысяч атрымалі пашкоджанні.

## Узмацніць кантроль за зброяй

Генеральны пракурор ЗША Джэнет Рына заклікае да ўзмацнення кантролю за зброяй. Міністэрства юстыцыі мае намер прадаставіць адпаведную справаздачу прэзідэнту Клінтану. Генеральны пракурор папярэджвае, што амерыканскаму ўраду неабходна сканцэнтраваць увагу на забарону зброі. Яна таксама заявіла, што зброі, якая выкарыстоўваецца для нападзення, няма месца на вуліцах амерыканскіх гарадоў. Прэзідэнт Клінтан мае намер прысвяціць барацьбе са злачыннасцю значную частку свайго звароту да нацыі ў аўторак. Таксама будуць абмеркаваны пытанні эканомікі, адукацыі і аховы здароўя.

## Святло — у горы!

На думку швейцарцаў, у свеце няма месцаў прыгажэйшых, чым Альпы. Незвычайна выказаў сваю любоў да іх адзін з горных жыхароў.

Ён вырашыў зрабіць прыстасаванне, якое б асвятляла горы ў начны час, каб можна было атрымліваць асалоду ад іх прыгажосці круглыя суткі. Ён ужо зрабіў прыбор, які асвятляе дзве гары паблізу з яго домам. Блакітная мара вынаходніка — асвятліць усе швейцарскія Альпы.

НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ!







КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО

# АЗВЯРЭННЕ

□ С. БАРЫСАЎ

*Раней многія вёскі славіліся сваімі традыцыямі, так бы мовіць, гуманітарным ухілам. З адной выйшла некалькі масцітых пісьменнікаў, з другой многія праславіліся на ваеннай ніве, у трэцяй жывуць цудоўныя музыканты, у чацвёртай — выдатныя цесляры: што ні хата — то твор мастацтва. Сёння зусім інакш. Напрыклад, вёска Вялікая Матыкала Брэсцкага раёна ў апошні час тым праславілася, што амаль уся моладзь з яе — злачынцы, прычым, не якія там дробныя зладзеі, махляры ці раскрадальнікі, а зусім арганізаваная банда, бязлітасная, дзеянні якой вызначаюцца перш за ўсё цынізмам.*

У адзін з красавіцкіх дзён мінулага года сем маладых жыхароў гэтай вёскі збілі на чыгуначнай станцыі непаўналетняга С.Каліту, на наступны дзень абрабавалі аўтамашыну, выкраўшы адтуль імпартны аўтамагнітафон, яшчэ праз дзень укралі матацыкл і прадалі яго за бутэльку гарэлкі. Потым следства высветліла, што такія "свавольствы" яны дазвалялі сабе нярэдка, кожны месяц збіраючыся ўсе разам і некалькі дзён запар учыняючы разбоі, рабаванні, напады на прахожых. Але асабліва вызначыўся адзін прадстаўнік бандыцкай суполкі з вёскі Вялікая Матыкала Васіль Ефімук, калі ўліўся ў рады іншай банды, якая складалася з моладзі адной вёскі Клейнікі: Анатоля Бялко, Васіля Селіванюка, Мікалая Куляша.

Спачатку ў цягніку Высока-Літоўск—Брэст яны збілі пасажыра А.Л.Андраюка і, пагражаючы яму нажом, забралі сумку з рэчамі, джынсавую куртку, кашалёк. Гэтага здалося мала. Пачалі прыставаць з брыдкімі прапановамі да дзяўчыны, а калі тая папрасіла не чапаць яе, сілай спрабавалі сцягнуць тую з цягніка на станцыі Скокі. Дзяўчыне пашанцавала: не вытрымаўшы відовішча адкрытага насілля, за пасажырку заступіўся амаль увесь вагон. Злосныя, як пабітыя сабакі, яны выйшлі на платформу. Цяпер цяжка сказаць, хто першы падаў ідэю кампенсаваць сваю нянавісць на род чалавечы наогул і яго жаночую палавіну, у прыватнасці, на жанчыне з дзіцем, але ўсе чацвёра пачалі патрабаваць ад яе задаволіць без усякіх пярэчанняў іх юрлівыя жаданні. Тая пачала крычаць, але на гэты раз жадаючых заступіцца не аказалася— не кожны ў адзіночку пойдзе супраць чатырох раз'юшаных бандытаў. Усё ж яна адбівалася як магла.

— Слухай, ты, — у ледзяным голасе аднаго з нападаўшых не адчувалася нічога, акрамя асалоды ад сваёй бязмежнай перавагі. — Будзеш правы качаць, адпірацца — за тваё дзіця возьмемся.

Потым яна прызнаецца, што хацела адбівацца да апошняга, пакуль не страціць прытомнасць, але не пераставала думаць пра сына, а пасля гэтай пагрозы здалася, молячы Бога, каб гэтыя звяры не кранулі малыша.

Нацешыўшыся, кампанія маладых вылюдкаў доўга яшчэ смакавала падрабязнасці здарэння, а дваіх, што не прынялі ўдзелу ў згвалтаванні, ці то ад перапіцця, ці то ад страху, сябрукі ўзнагародзілі, на правах моцнага, рознымі зневажальнымі слоўцамі.

Калі б яны былі прафесійнымі злачынцамі — усвядомілі без сумнення, што вельмі наследзілі ў гэты вечар: і аграблены Андраюк іх запомніў, і дзяўчына з цягніка, якую яны спачатку вызначылі для сябе як ахвяру, і ўвесь вагон, у якім ехалі, і людзі на пероне станцыі Скокі. Зразумелі, што шанцаў уцячы ад міліцыі — ніякіх. Але ў тым вось і загвоздка, што жывёльны, першабытны, унутраны інстынкт, не столькі палавы і нават не столькі ён, а інстынкт звера, які злавіў больш слабага, павячэраць ім, паздзекавацца са слабага, перш чым выкарыстаць, пераадолеўшы сігналы розуму, і таму, пераадолеўшы ва ўсіх чатырох, што кожны дзень жылі яны не па розуму, а па такому вось ці іншаму інстынкту. Мэта практычна кожнага дня — выпіць з раніцы. Калі што-небудзь рабілася карыснае — няхай гэта было наведанне работы ці дапамога бацькам па дому, то толькі з той мэтай — зарабіць ці пазычыць на рабоце, ці ўпрасіць бацькоў дастаць грошай на выпіўку. П'яных іх цягнула на "забавы", якія недалёкаму іх розуму здаваліся простымі, зразумелымі і пацешнымі — забыцца ў "кайфе" пад музыку, іголку, з жанчынай — няважна, але забыцца на ўсё. І ўжо вышэйшая асалода — адчуць сваю значнасць, сілу, пераканацца, што ты камандуеш, цябе баяцца. Бо ў рэальным жыцці не баяцца цябе, а ненавідзяць, у лепшым выпадку — цярпяць.

Да якой ступені можа даходзіць часам такое вось маральнае атупенне, сведчыць і нядаўні выпадак з жыхаром вёскі Вялікі Лес Драгічынскага раёна Пятром Свіцічам. Ён толькі што вярнуўся з месца зняволення, дзе правёў пяць гадоў за злоснае хуліганства. Прыехаў у Жабінку, выпіў, прычым, нямнога. Каля цукровага завода ўбачыў зусім яму незнаёмую Любоў Лебядзінскую, накінуўся на яе і пабіў. Сустрэў потым па дарозе Надзею Гусеву — і таксама пабіў, прычым, калі тая ўпала, працягваў біць нагамі, злосна, не чуючы крыкаў, а потым хрыпаў сваёй ахвяры, пакуль сам не стаміўся ад удараў. Надзею потым даставілі ў бальніцу з цяжкай чэрапна-мазгавой траўмай, страсеннем мазгоў, шматлікімі ўдарамі і пераломамі. Магла і не выжыць. Пасля нападу на Надзею, Свіціч не супакоіўся, а стаў бадзяцца вакол завода ў пошуках чарговых ахвяр. Мужчын пазбягаў. Напаў на непаўналетніх Іну Пучык і Вольгу Паўлаву. Ударыў іх па чарзе загадзя прыхаванай бутэлькай па галаве. Дзяўчынкі пачалі ўцякаць, дагнаў і біў, біў...

На судзе яго настойліва прымушалі растлумачыць прычыну таго, што здарылася. Што яму зрабілі гэтыя дзяўчаты? За што ён іх так? Але аказалася — усіх чатырох ён ніколі да таго злашчаснага для ахвяр дня не бачыў. І растлумачыць не мог нічога. Ён хацеў біць, забіваць, больш нічога не ведае. Далі яму сем гадоў строгага рэжыму.

Па-мойму, у прыродзе не існуе звера, які б нападаў на такога як сам або чалавека проста так, не будучы галодным, раздражнёным або параненым. Сярод людзей такіх даволі многа і з кожным днём становіцца ўсё больш, таму што нават такой стрымліваючай асновы, як упэўненасць у добрай рабоце міліцыі, няма, любы школьнік цяпер скажа, што яна дрэнна працуе. Няма надзеі і на тое, што сумленным жыццём, настойлівай працай даб'ешся для сябе дабрабыту. Усе бачаць, што дацэнты гандлююць на базарах кнігамі і статуэткамі з дому. Адзін мой знаёмы выкладчык — скрыпач прадаў скрыпку, а былыя зэкі, учарашнія школьнікі — троечнікі і наогул Бог ведае хто, раз'язджаюць у "мерседэсах". Зайдзіце ў любое дарагое вячэрняе кафэ Мінска. Хто там сядзіць за "Напалеонам"? Вучоныя і перадавікі вытворчасці? Наўрад ці: дзяўчаты школьнага ўзросту ды хлопцы з тварамі крымінальнікаў. Няма ўпэўненасці і ў тым, што наш мудры парламент пакончыць са злачыннасцю. Законаў наконт гэтага аб узмацненні мер па барацьбе і наогул, ледзь ці не аб спыненні поўнасцю злачыннасці, прынята нямала. Але рэальна пакуль што не выканана нават самае неабходнае, самае надзённае. Можна прыняць як факт, што з-за нікчэмнасці ўладу маючых дзяржава няздольна абараніць асобу ад злачынных замахаў. Пра гэта сведчаць нават факты дадзенага артыкула. Але ж дзяржава перашкаджае асобе абараніць сябе ад злачынцы. Мала таго, дзяржава не словамі і абяцаннямі, а на справе дапамагае злачынцу рабаваць і забіваць людзей; ва ўсякім разе пры нападзенні злачынцы, скажам, на маладую дзяўчыну, яна, з прычыны існуючай судовай практыкі, патрабуе ад яе, каб тая ад узброенага і здаравеннага бандыта абаранялася па ўсіх правілах каратэ і тэквандо. І не дай Бог ёй злачынцу забіць. Можа і ў турму трапіць. Між тым, ва ўсіх цывілізаваных краінах крымінальную справу па факту забойства спыняюць адразу ж, калі высвятляецца, што той, хто забіў, абараняўся. І няважна якімі сродкамі. Любы адчуваў бы сябе ў большай бяспецы, калі б ведаў, што яму нічога не будзе, што б ён з нападаўшым ні зрабіў.

Кажуць, злачыннасць звязана з дрэнным станам эканомікі. Але, па-першае, гэта зусім не так, таму што і ў эканамічна развітых краінах яна працвітае, акрамя таго, самыя небяспечныя злачынствы супраць асобы, якія ўчыняюць маньякі, звязаны хутчэй з асаблівасцямі псіхікі, а не з эканомікай. Па-другое, няхай нават і залежыць у многім злачыннасць ад узроўню развіцця эканомікі. Але тады тым больш недарэчна сёння эксперыментаваць у галіне гуманізацыі крымінальнага заканадаўства, бо эканоміку мы не палепшым у бліжэйшы час, а аддаленае паляпшэнне таксама праблематычнае. Навошта ж даваць фору развіццю злачыннасці, не маючы ніякай упэўненасці, што ў бліжэйшы час эканамічнымі і сацыяльнымі рэформамі мы знішчым яе карані? Толькі дзеля папулізму, каб частка народа паглядзела, які добры гэты гуманіст і, магчыма, за яго прагаласавалі? Што ж, дзеля папулізму, відаць, у нас робіцца ўсё. Гэта — адзіная рыса дэмакратычнага ладу жыцця, якая ў нас прывілася цалкам.

На мой погляд, паколькі працэс азвярэння нораваў у рэспубліцы спыніць сёння вельмі складана, трэба проста падзяліць дакладна злачынцаў на дзве катэгорыі: тых, хто ажыццяўляе злачынствы супраць асобы і супраць грамадства. Калі ў нас прыярытэт асобы, то першай катэгорыі не трэба даваць ніякай літасці і ўтрымліваць іх асобна ад хабарнікаў, растратчыкаў, аферыстаў і г.д., якія, безумоўна, таксама не цацы і супраць якіх таксама трэба змагацца. Але ўсё ж яны не пазбаўляюць насельніцтва магчымасці спакойна прайсці па вуліцы і адпусціць сваю дачку вечарам да сяброўкі. Дарэчы, і сусветная крымінальная практыка сведчыць аб тым, што калі апошняя з гэтых катэгорый яшчэ можа паддацца гуманным метадам уздзеяння, то забойцы, гвалтаўнікі, садысты ці асобы, апісаныя ў гэтым артыкуле, якія жывуць выключна па інстынкту звера, — ніколі.

■

ЭКА-ФАКТ

## НЕ ПІ, ІВАНКА, СА СТУДНІ...

Паводле звестак санітарна-эпідэміялагічнай службы рэспублікі, больш за палову абследаваных у розных раёнах Беларусі студняў утрымліваюць ваду, якая не адпавядае стандарту пітной. Асабліва трывожнае становішча склалася ў некаторых гаспадарках Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Як паказалі абследаванні, на тэрыторыі калгаса "Ленінская іскра", саўгаса "Беразнянскі", аграфірмы "Ненач" ад 70 да 90 працэнтаў вада ў студнях утрымлівае такую колькасць нітратаў, якая ў шмат разоў перавышае дапушчальныя санітарныя нормы.

## АКУНЬ — у "ЧЫРВОНАЙ КНІЗЕ"?

Прамысловы ўлоў рыбы ў вадаёмах Беларусі скарачаецца з года ў год. Калі ў 1990 годзе было вылаўлена 19626 тон рыбы, то ў 1992-м толькі 1462. У 1993-м годзе вылаў зноў зменшыўся на 182 тоны.

Асноўнымі прычынамі з'яўляюцца нездавальняючае гаспадаранне, няпоўнае выкарыстанне ў гэтым напрамку рэк і азёр, забруджванне прамысловымі адходамі вадаёмаў і, як вынік, пагаршэнне ўмоў для жыццядзейнасці рыбы, асабліва каштоўнай. "Палепшыліся" справы, бадай, толькі ў браканьераў. Інспектарамі рыбаахоны ў мінулым годзе выяўлена па рэспубліцы каля 13 тысяч выпадкаў парушэння правілаў рыбнай лоўлі. Сума штрафаў, спагнаных з парушальнікаў, склала амаль 5 мільёнаў рублёў. Але гэта выяўленыя, а колькі не? Рыба, як вядома, маўчыць, але не павінна маўчаць грамадскасць. Бо калі справы так пойдуць і надалей, то хутка ў "Чырвоную кнігу" прыйдзецца заносіць і акуня, і плотку, і ярша.

## ЯШЧЭ АДЗІН ЗАПАВЕДНЫ КУТОК

Прыемна чуць, калі нават у цяжкіх эканамічных умовах людзі шчыра імкнуцца захаваць прыроду. "Ракітнік" — так завецца заказнік, нядаўна створаны па ініцыятыве жыхароў вёскі Пясочнае Капыльскага раёна Мінскай вобласці, якія даслалі ліст у Акадэмію навук Беларусі з просьбай абараніць пасяленні баброў і шматлікія месцы росту "чырванакніжных" беларускіх архідэй.

Зараз рыхтуецца навуковае абгрунтаванне стварэння ў Капыльскім раёне яшчэ і паляўнічага заказніка, так званага рэзервата паляўнічых жывёлін на тэрыторыі Бабаўнянскага лясніцтва. Ініцыятары стварэння запаведнага кутка — Капыльскі лясгас і раённая інспекцыя па экалогіі. Афіцыйна пачне існаваць новы заказнік у бягучым годзе.

## КОЛЬКІ КАШТУЮЦЬ СЛЁЗЫ ПРЫРОДЫ?

Служба прапаганды Віцебскага абласнога камітэта па экалогіі абвясціла спіс прадпрыемстваў і арганізацый вобласці, да якіх прад'яўлены іскавыя прэтэнзіі ў сувязі з забруджваннем імі навакольнага асяроддзя.

Іскі прад'яўлены да 21 прадпрыемства на агульную суму ў 22 021 607 рублёў за звышнарматыўнае забруджванне атмасфернага паветра, забруджванне вадаёмаў неачышчанымі сцёкавымі водамі і нафтапрадуктамі і г.д. Раскашэліцца, відаць, прыйдзецца і такому вядомаму нават за межамі рэспублікі прадпрыемству, як наваполацкі "Вымяральнік". Праўда, усяго на 17 700 рублёў. Значна большыя страты панясе Полацкае ДБУ-2 дарожнабудаўнічага трэста № 1. Сума прад'яўленага да яго іску — 6 236 400 рублёў.

РОЗГАЛАС

## ПРЫ ЧЫМ ТУТ ДЗЕЦІ

Рэдакцыя атрымала ліст ад жыхаркі вёскі Белеў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці Тамары Козел. Нагадаем змест пісьма, пра якое зазначалася ў пераднавагоднім "Аглядзе пошты".

У дадзены момант спадарыня Т.Козел знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Да гэтага ж яна працавала ў калгасе "III Інтэрнацыянал" аператарам машыннага даення. У Тамары Міхайлаўны трое непаўналетніх дзяцей. На дваіх з іх са студзеня 1993 года яна не атрымлівае матэрыяльнай дапамогі. У чым прычына? Як тлумачыць сама скаржніца — у мужа не хапіла працадзён. Але адкуль ім з'явіцца, калі спадар Козел пастаянна знаходзіцца ў месцах пазбаўлення волі. 22 мая 1992 года вызваліўся, а ў красавіку 1993-га ізноў трапіў у турму. "Дык няўжо ж па яго віне павінны пакутаваць і галадаць дзеці. Я ж без выхадных 15 гадоў прапрацавала на ферме".— у роспачы зазначае аўтарка пісьма.

Рэдакцыя накіравала копію ліста Т.Козел на рэагаванне Жыткавіцкаму раённаму Савету народных дэпутатаў. І атрымала ад выканкама наступны адказ: "Згодна з п.15 вытлумачэнняў Мінфіна, узгодненых з Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь № 06-4/330 ад 30.04.1993 года па прызначэнню і выплаце дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, сям'я мае права на атрыманне дапамогі на дзяцей, старэйшых за 3 гады, калі працаздольны бацька ў поўнай сям'і выпрацаваў у 1992 годзе не менш як 2/3 мінімуму выхадаў на працу, устаноўленага калгасам.

Статутам калгаса "III Інтэрнацыянал", дзе працавала грамадзянка Т.М.Козел і ейны муж І.П.Козел, мінімум устаноўлены наступны — 240 працадзён у каляндарным годзе ці 20 працадзён у месяц. Грамадзянін І.П.Козел пад час працы ў калгасе, г.зн. з 1.08.1992 года па 31.12.1992 года, адпрацаваў толькі 54 працадні, што менш 2/3 устаноўленага калгасам мінімуму.

ПА-СУСЕДСКУ

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ Ў ВІЛЬНІ

У Віленскім палацы друку адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы беларускіх кніг і перыёдыкі. Гэтае мерапрыемства — "адказ" на выставу літоўскай дзіцячай кнігі, якая ў канцы мінулага года прайшла ў Мінску. Ініцыятарамі новай выставы сталі літоўцы, а падрыхтавалі яе сумесна прадпрыемствы "Летувос Спаўда" і "Белсаюздрук".

## КАЛІ ЗАЎТРА ВАЙНА...

Новы старшыня Камітэта літоўскага Сейма па нацыянальнай бяспецы Вітаўтас Пяткавічус на прэс-канфернцыі пад час свайго прызначэння на гэты пост паведаміў, што яму дасталася цяжкая спадчына. "Найбольш праблем скапілася ў структурах аховы краю. У выпадку нападу Літоўская армія не магла б весці працяглых ваенных дзеянняў, — сказаў В.Пяткавічус. — І таму асноўнай канцэпцыяй аховы краю павінна стаць усенароднае супраціўленне, але і да гэтага армія не гатовая. Яна даволі слабая. Затое квітнеюць чыноўнікі Міністэрства аховы краю. Камітэт нацыянальнай бяспекі зробіць усё, каб з 214 супрацоўнікаў міністэрства засталося не больш за 30-40". Гаворачы пра ахову дзяржаўнай граніцы, В.Пяткавічус сказаў, што гэтая функцыя будзе перададзена пагранічнай паліцыі. Цяперашняя сітуацыя на граніцы — гэта ганьба для дзяржавы. Граніца была і застаецца аб'ектам буйнога бізнесу.

БелаПАН.

—з гісторыі Беларусі

# з усмешкай...

заахвочваў паліцэйскі апарат, падтрымліваў шпіянаж, пашыраў замежную агентуру.

У Пецярбургу Младзецкі сустрэўся з Аляксандрам Дзмітрыевічам Міхайлавым, членам Выканаўчага камітэта "Народнай волі", і прапанаваў свае паслугі для выканання якога-небудзь тэрарыстычнага акта. Не дачакаўшыся пэўнага адказу, вырашыў дзейнічаць самастойна.

Падаўляючы ў сабе ўнутранае хваляванне, Младзецкі накіраваўся да дому на Мойцы, у якім жыў новы правіцель Расіі, і стаў чакаць ля пад'езда. Вечарам, вяртаючыся з даклада яго вялікасці Аляксандру II, Лорыс-Melікаў выйшаў з карэты, якая спынілася ля ганка яго дома. У той жа момант, нічога не падазраючы, шэф жандараў пачуў лёгкі штуршок у правы бок. Гэта было дула рэвальвера.

Пачуўся глухі стрэл. Лорыс-Мелікаў збялеўшы, адхінуўся да карэты. Той, хто страляў, пабег прэч. Яму пад ногі трапіў хлопчык. Нападаўшы спатыкнуўся і паваліўся. Шэф жандараў падбег і са злосцю ўдарыў яго нагою ў твар.

Лёс злітаваўся над шэфам жандараў. Куля Младзецкага вырвала кавалак шыняля, вату з цёплай камізэлькі і выйшла з левага боку. Граф абышоўся лёгкім спалохам.

Іпаліт Младзецкі тут жа быў схоплены і зняволены ў казэмат Екацярынінскай курціны Петрапаўлаўскай крэпасці.

Вестка пра няўдалую спробу нападу, ваенны суд і магчымае пакаранне Младзецкага ўскалыхнула ўсіх жыхароў Пецярбурга. Усе з нецярплівасцю чакалі, што скажа самадзяржаўнае правасуддзе? Масы маўчалі: свядомасць яшчэ не прачнулася. Не маглі маўчаць толькі тыя, хто валодаў палітычнай празорлівасцю. Не маўчала сумленне Усевалада Міхайлавіча Гаршына, аднаго з буйнейшых рускіх пісьменнікаў 70—80-х гадоў мінулага стагоддзя. Яго душа пратэставала, ён імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб прыпыніць меч правасуддзя. Гаршын баяўся ўпусціць час. Ён выкарыстаў сілу пісьменніцкага аўтарытэту: у дзень вынясення прыгавору напісаў жаласлівае пісьмо графу Лорыс-Мелікаву, у якім прасіў дараваць Іпаліту Младзецкаму. Пісьменнік пераконваў дыктатара ў тым, што "не шыбеніцамі і не катаргамі, не кінжаламі, рэвальверамі і дынамітам змяняюцца ідэі, ілжывыя і сапраўдныя, але прыкладамі маральнага самаадрачэння". Вядома ж, чакаць такіх прыкладаў ад Лорыс-Мелікава, было наіўна. Гэтак жа наіўна было бачыць у ім "чалавека ўлады і сумлення" і прасіць яго "супакоіць страсці".

На наступны дзень Пецярбургскі ваенна-акруговы суд прыгаварыў Іпаліта Осіпавіча Младзецкага да смяротнага пакарання праз павешанне. Знакаміты рускі гісторык і рэвалюцыянер М.Н.Пакроўскі потым пісаў, што Лорыс-Мелікаў першы пазнаёміў "грамадства" з прымяненнем палявога суда да палітычных спраў.

Настала пецярбургская раніца 22 лютага 1880 года, змрочная і тужлівая. Гараджане рана ўставалі і, наспех апрануўшыся, спяшаліся на Сямёнаўскі пляц, дзе павінна было адбыцца публічнае пакаранне смерцю.

"Набліжаючыся да яго,— піша відавочца,— я заўважыў натоўпы людзей, якія беглі туды з розных бакоў. У гэтай паспешлівасці было нешта дзікае і жорсткае. Здавалася, усе гэтыя людзі баяліся толькі аднаго — прапусціць рэдкае відовішча". Абывацелям прадаставілася магчымасць паказытаць сабе нервы, і натоўпы гараджан збегліся на пакаранне нарадавольца. Паводле сведчання відавочца, пісьменніка Ф.М.Дастаеўскага, на пакаранне І.О.Младзецкага сабралася да 50 тысяч чалавек.

З жахам у вачах і глухім гоманам людзі назіралі за страшным відовішчам. Іпаліт Младзецкі трымаўся дастойна, на яго маладым твары не было страху. З усмешкай падняўся на падмосткі, крыкнуў у натоўп, які сабраўся вакол шыбеніцы:

— Я паміраю за вас!

"Народная воля" высока ацаніла паводзіны Младзецкага, паставіўшы яго побач з лепшымі прыкладамі вернасці рэвалюцыйнаму абавязку, выкарыстала яго ў агітацыйных мэтах. У пракламацыі, выдадзенай Выканаўчым камітэтам, гаварылася:"...Рэвалюцыянеру невядома шкадаванне аб ранняй гібелі сваёй; з любоўю глядзеў Іпаліт Осіпавіч на народ, і глыбокая прароцкая вера ў блізкую перамогу свету і праўды чулася ў яго словах... Загінула рэвалюцыйная сіла, але не бясследна: доблесны подзвіг твой паслужыць прыкладам для многіх, сама жорсткасць прыгавору ляжа ганебным кляймом на ворагаў тваіх".

Пра пакаранага гаварыла ўся рэвалюцыйна-дэмакратычная Расія. Яго імя ўпамінаецца ў творах Усевалада Гаршына, Фёдара Дастаеўскага, Уладзіміра Караленкі, Глеба Успенскага, многіх рэвалюцыйных дзеячаў. Легендарная Вера Фігнер з захапленнем пісала, што Младзецкі "памёр на эшафоце з усмешкай героя".

В.М.Гаршын, як і Леў Талстой, рашуча адхіляў усякае насілле і ўсё ж высока цаніў маральную веліч рэвалюцыянераў. Яго адчайна-трагічная спроба выратаваць жыццё нашага земляка надта дорага яму каштавала. Уражаны смерцю Младзецкага, Усевалад Гаршын зусім злёг, плакаў, потым з'ехаў з Пецярбурга. Ён апынуўся ў Тульскай губерні. У адным сурдуце, вярхом на кані, а потым пешшу Гаршын накіраваўся ў Ясную Паляну, да Льва Мікалаевіча Талстога, з якім да гэтага не быў знаёмы. З вялікім пісьменнікам ён прагаварыў усю ноч, якую лічыў потым "лепшай і найшчаслівейшай у сваім жыцці". Логіка факта падказвае, што ад Гаршына Талстой даведаўся пра мужнасць Іпаліта Младзецкага.

Гэту смерць цяжка перажываў Фёдар Дастаеўскі. Публічнае пакаранне Іпаліта Младзецкага літаральна ўзрушыла яго. А.І.Талстая пісала Е.Ф.Юнге: "Зараз вярнулася ад Дастаеўскага — я знайшла яго нечым засмучаным, хворым, бледным. Яго вельмі ўразіла (як гледача) пакаранне злачынцы".

Выстрал Младзецкага натхніў многіх рэвалюцыйных народнікаў, у яго знайшліся паслядоўнікі. Праз год за замах на цара на тым жа Сямёнаўскім пляцы прынялі пакутлівую смерць Андрэй Жэлябаў, Мікалай Кібальчыч, Соф'я Пяроўская. Іх смерць, як і пакаранне Младзецкага, служыла палітычнаму прасвятленню новых барацьбітоў супраць манархічнай тыраніі, абвяргала памылковасць народніцкай тэорыі аб "актыўных" героях і "пасіўным" натоўпе. Нельга не захапляцца вялікай самаахвярнасцю нарадавольцаў, але нельга таксама згадзіцца з утапічнай праграмай і тактыкай індывідуальнага тэрору, іх разлікі дабіцца перабудовы грамадства сваімі сіламі, без удзелу працоўнага народа. Несумненна, гэтыя ахвяры не былі дарэмнымі, яны рыхтавалі глебу для пошуку новых, лепшых узораў, усталявання жыцця. Насуперак расчараванням жыве надзея на лепшае і сёння.



